# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 45 7 лістапада 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

(2239) Цана 8 кап.




Назіраючы за палітычнымі падзеямі, што датычацца Белар[illegible] так і хочацца сказаць: каб толькі з іх быў умалот! У імклівым тэмпе адбыўся дыялог Беларусь — Літва. Як мы ўжо паведамлялі, Старшыня Вярхоўнага Савета Літоўскай Рэспублікі Вітаўтас Ландсбергіс і Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч абмяняліся рабочымі візітамі ў Мінск і Вільнюс. Вынік усяго гэтага — падпісанне Дэкларацыі аб прынцыпах добрасуседскіх [illegible]сін паміж нашымі дзяржавамі, у якой многа прыгожых слоў [illegible]заемную павагу дзяржаўнага суверэнітэту, забеспячэнне літоўцам у Беларусі і беларусам у Літве правоў і свабод, аднолькавых з карэннымі жыхарамі рэспублік, супрацоўніцтва на міжнароднай арэне. Але, як было адзначана на прэс-канферэнцыі ў Мінску, да эканамічнага дагавора паміж Літвой і Беларуссю не дайшло — да яго вядзе доўгі і няпросты шлях. Нягледзячы на высокія прынцыпы добрасуседства, Беларусі трэба дбаць пра ахову свайго рынку: Літва адпусціла цэны на ўсе тавары, і яны выраслі ў 2—3 разы. Значыць — чакай нашэсця суседзяў, якія і так наносяць нам адчувальны эканамічны ўрон.

Затое, мабыць, лепш складваюцца менавіта эканамічныя адносіны Беларусі з Малдовай. 29 кастрычніка ў Мінску было падпісана міжурадавае пагадненне.

Ставячы свае подпісы пад дакументам аб прынцыпах гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва, прэм'ер-міністры Малдовы і Беларусі Валерый Мураўскі і Вячаслаў Кебіч, у якіх вельмі прыязныя асабістыя кантакты, мелі падставы гаварыць аб тым, што гэта пагадненне выгаднае для абедзвюх рэспублік і, магчыма, дапаможа ім утрымацца і не патануць у моры хаосу, які сёння ахапіў былы Саюз.

НА ЗДЫМКАХ: перагаворы С. ШУШКЕВІЧА з В. ЛАНДСБЕРГІСАМ у Вільнюсе (уверсе); падпісанне пагаднення паміж урадамі рэспублік Малдова і Беларусь у Мінску.



*ПАЛЕМІЧНЫЯ НАТАТКІ*

# ЦІ ЗАГАВОРЫМ МЫ ПА-БЕЛАРУСКУ?

Сёння, на зыходзе другога года «дзяржаўнага стану» беларускай мовы, аб яе па-ранейшаму гаротным стане пішацца не менш, чым раней, калі ішла сапраўдная барацьба за наданне мове беларускага народа статуса дзяржаўнай. Галоўнай ідэяй большасці публікацый на «моўную» тэму з'яўляецца наступная: прыняцце адпаведнага закона і яго дзеянне на працягу амаль двух гадоў істотна не змяніла моўную сітуацыю ў рэспубліцы, беларуская літаратурная мова ў сваёй гутарковай форме па-ранейшаму значнага ці хоць бы прыкметнага месца ў моўных зносінах людзей не займае.

З такой думкай згадзіцца цалкам, без пэўных агаворак, аднак, нельга. Я ўпэўнены, што закон аб мовах быў прыняты якраз у той час, калі для гэтага склаліся спрыяльныя ўмовы. А калі гэта так, то трэба згадзіцца і з тым, што такі закон пачаў «працаваць» адразу пасля прыняцця. Таксама і моўная сітуацыя пачала змяняцца разам са змяненнем палітычнай сітуацыі ў краіне ў цэлым і ў Беларусі. Гэта бясспрэчна. Уздзеянне грамадства на мову, сацыяльная абумоўленасць працякання моўных працэсаў добра вядомы спецыялістам. Толькі вось трэба падкрэсліць, што змяненне моўнай сітуацыі не з'яўляецца прама прапарцыянальным зрухам у грамадскім жыцці. Таму, шчыра кажучы, спадзяванні на хуткую «рэзультатыўнасць» закону аб мовах у Беларусі мне заўсёды здаваліся наіўнымі.

Тым не менш, пэўныя зрухі ў моўнай сітуацыі ў рэспубліцы ўжо відавочныя. На першы погляд, колькасць тых, хто размаўляе ў паўсядзённым жыцці на беларускай мове, павялічылася нязначна. З другога боку, стаўленне, адносіны да беларускай мовы карэнным чынам змяніліся. Сёння ў нашай рэспубліцы мала хто не згаджаецца з неабходнасцю пашырэння сферы ўжывання нацыянальнай мовы, з тым, што яна (мова) павінна на значна больш высокім узроўні вывучацца і выкарыстоўвацца перш за ўсё ў школах. Думаю, не памылюся, калі скажу, што зрухі ў моўнай сітуацыі на Беларусі хутка могуць стаць яшчэ больш відавочнымі пры ўмове паглыблення і пашырэння рэальнага суверэнітэту рэспублікі.

Нельга пагадзіцца і з вывадамі тых аўтараў, якія сцвярджаюць, што беларусы ў большасці сваёй «не жадаюць» размаўляць па-беларуску, што насельніцтва Рэспублікі Беларусь «з-за сур'ёзных парушэнняў ленінскай нацыянальнай палітыкі амаль пагалоўна дэнацыяналізавана і не ў стане зрабіць правільнага выбару адносна свайго нацыянальна-культурнага развіцця» (цытата з артыкула Л. Лыча «Рэлігія і мова», надрукаванага ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», №№ 31—36 за 1991 год). Аб занадта песімістычным прагнозе наконт здольнасці беларусаў рабіць правільны выбар можна было б доўга разважаць і спрачацца. На мой погляд, думка аб «пагалоўнай дэнацыяналізацыі» беларусаў паспешлівая і неабгрунтаваная. Мне бліжэй пункт гледжання тых аўтараў, якія, наадварот, падкрэсліваюць трываласць нацыянальнага комплексу беларусаў, які настолькі загартаваўся ў варунках нішчання, што яму цяжка знайсці роўных (гл., у прыватнасці, артыкул Ю. Залоскі «Час новых ідэй».— «Літаратура і мастацтва», № 36 за 6 верасня 1991 г.).

Ніжэй я прыгадаю шэраг фактаў, якія сведчаць на карысць такой думкі. Зараз жа спынюся на тым, чаму беларусы «не жадаюць» размаўляюць па-беларуску.

Аднаго жадання ці нежадання тут недастаткова. Даводзіцца чуць, што нават перад людзьмі, якія быццам бы гатовы пачаць размаўляць па-беларуску, узнікае нейкі «псіхалагічны бар'ер», яны проста баяцца размаўляць не так, як астатнія — суседзі, калегі па рабоце, сябры, родныя, знаёмыя (аб гэтым добра сказана Т. Буйко ў матэрыяле «Мы павінны загаварыць!» — «Літаратура і мастацтва», № 38 за 20 верасня 1991 г.).

«Псіхалагічны бар'ер» — гэта праяўленне своеасаблівай моўнай дастатковасці. Носьбітам мовы дастаткова карыстання адной мовай, у даным выпадку — рускай. Яна цалкам задавальняе іх патрэбы ва ўсіх жыццёвых сітуацыях, ва ўсіх сферах дзейнасці. Беларускай жа мове адводзіцца роля пэўнай «рэчы» ў хатняй гаспадарцы, якая проста павінна быць, але выкарыстоўваецца зрэдку, бо без яе і так можна абысціся. Беларуская мова быццам бы «рэч» не першай неабходнасці.

Размеркаванне «роляў» паміж беларускай і рускай мовамі даволі цікавае, нават нязвычнае, бо не адпавядае «класічным» прыкладам. Што я маю на ўвазе? Большасць жыхароў рэспублікі ўспрымаюць як належнае факт выкладання беларускай мовы ў школах, яе гучанне па радыё, тэлебачанні, друкаванне беларускамоўных газет і часопісаў. Іншымі словамі, існуе пэўная агульная згода ў адносінах да «пасіўнага функцыяніравання», пасіўнага ўжывання беларускай мовы. Актыўнае ж карыстанне ёю не толькі не назіраецца, але і не заахвочваецца, у тым ліку ў самай галоўнай сферы жыцця — бытавой; галоўнай таму, бо менавіта гэта сфера толькі і можа забяспечыць сапраўднае адраджэнне беларускай мовы.

Чаму я назваў размеркаванне «роляў» паміж беларускай і рускай мовамі «некласічным»? І што значыць «некласічная» моўная сітуацыя? Гэтакай моўная сітуацыя ў Беларусі выглядае толькі пры ўмове, калі мы будзем тлумачыць яе ўзнікненне выключна з дапамогай пазамоўных прычын і лічыць, што заняпад беларускай мовы наступіў толькі ў выніку нераўнапраўнага яе становішча ў папярэднія дзесяцігоддзі, гэта значыць у савецкі час. Справа ў тым, што пры дыскрымінацыі пэўнай мовы звычайна звужаецца ці нават спыняецца яе ўжыванне ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, за выключэннем бытавой. Мова, якая «выцікаецца» са школ, справаводства, на якой прыпыняецца выданне літаратуры, іншай друкаванай прадукцыі, звычайна захоўваецца як **гутарковая мова;** яна працягвае гучаць падчас бытавых зносін людзей адпаведнай нацыянальнасці.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

**УРАДАВАЯ ХРОНІКА**

## ПРАДСТАЎНІК У МАП

Савет Міністраў Беларусі зацвердзіў прадстаўніком урада Рэспублікі Беларусь у Адміністрацыйным савеце Міжнароднай арганізацыі працы (МАП) Н. Жукоўскага, начальніка аддзела міжнародных сувязей Дзяржкампрацы рэспублікі.

З 1 па 15 лістапада 1991 года дэлегацыя Беларусі на чале з Н. Жукоўскім прыме ўдзел у сесіі Адміністрацыйнага савета МАП, якая пройдзе ў Жэневе.

## ПАДПІСАНА ПАГАДНЕННЕ

Як будзе развівацца ў далейшым духоўнае ўзаемаўзбагачэнне Расіі і Беларусі ў рамках набытага рэспублікамі суверэнітэту? Адказ на гэта пытанне змяшчаецца ў пагадненні аб шматбаковым супрацоўніцтве ў сферы абмену інфармацыяй. Яго падпісалі міністр друку і масавай інфармацыі РСФСР М. Палтаранін і старшыня Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку А. Бутэвіч.

**НАВІНКА АЎТАЗАВОДА**



Адпала неабходнасць закупляць за мяжой дарагія (цана кожнага да 600 тысяч долараў) цяжкавозы для металургічных прадпрыемстваў. Па заданню Савета Міністраў рэспублікі такая машына створана на Беларускім аўтамабільным заводзе ў Жодзіне. Першым атрымае «БелАЗ-7924» Беларускі металургічны завод у Жлобіне.
Хутка новая машына сваім ходам адправіцца да месца прызначэння. Яе грузападымальнасць — 140 тон, магутнасць рухавіка — 425 конскіх сіл, хуткасць у рабочым рэжыме — да 10 кіламетраў у гадзіну.
НА ЗДЫМКУ: новы цяжкавоз «БелАЗ-7924»

**ТРАДЫЦЫІ**

## ДЗЯДЫ Ў МІНСКУ

Жыццё паступова расстаўляе ўсё на свае месцы. Застаюцца ў мінулым уяўныя ідэалы, адраджаюцца зняважаныя. Вярнуліся і многія незаслужана забытыя святы. Напярэдадні азадачыўшых парламентарыяў «чырвоных дат», 2 лістапада ў Беларусі па старадаўняму звычаю прайшоў Дзень памінання — Дзяды.

Па-рознаму адзначаны Дзяды ў Мінску. Члены Беларускага народнага фронта і «Мартыралога Беларусі» вырашылі правесці мітынг-рэквіем, прысвечаны памяці ахвяр бальшавіцкага тэрору. Ён пачаўся ля будынка Міністэрства ўнутраных спраў рэспублікі. На месцы масавых расстрэлаў у Курапатах адбыўся малебен.

А ў Доме літаратара Саюза пісьменнікаў Беларусі наладзіў памінальны вечар Беларускі фонд культуры. Гэта тэатралізаваная кампазіцыя, пабудаваная на аснове старадаўніх абрадаў. Сваімі ўспамінамі дзяліліся мінскія старажылы, прагучалі старадаўнія песні і балады, народная музыка, архаічныя замовы, вершы.

*«Другой, апрача эміграцкай, крыніцай дапамогі для Беларускага музея з'яўляецца крыніца, якая пацякла ў Гайнаўку з Беларусі. На працягу некалькіх гадоў адзінай беларускай арганізацыяй, якая дапамагала будаваць музей, было таварыства «Радзіма». Ведаю, што маё сцвярджэнне выкліча здзіўленне, а можа і абурэнне з боку тых людзей, якія не любяць «Радзімы», залічваючы яе да арганізацый пракамуністычных. Праблема ідэалогіі тых, хто нам дапамагае, ніколі нас не цікавіла. Мы ўвогуле не маем у запасе ярлыкоў, пры дапамозе якіх знакавалі б або кляймілі людзей паводле іх палітычных поглядаў. Па-першае, лічым, што кожны чалавек мае права да сваіх поглядаў і што ніхто не мае права ўмешвацца ў гэту святую сферу асабістага жыцця чалавека. Па-другое, дружалюбна трактуем кожнага чалавека, які дапамагае ў пабудове музея. «Радзіма» нам у гэтай справе дапамагала і дапамагае, і таму гаворым ёй шчырае дзякуй.*

*«Радзіма» дапамагла нам многа, і мы былі б безразумнымі людзьмі, калі б з такіх ці іншых прычын замоўчвалі гэты факт або яму запярэчвалі.*

*І яшчэ адно. Дапамагаючы музею, ніхто ніколі з «Радзімы» не ставіў нам ніякіх варункаў, не патрабаваў ад нас ніякіх дэкларацый і не стараўся накіраваць нас супроць якіх-колечы людзей або ідэалогіі на свеце».*

*Алесь БАРСКІ,*
*старшыня БГКТ у Польшчы.*

**РАШЭННЕ ВЫКАНКОМА**

## ПАРТЫЙНАЯ ЎЛАСНАСЦЬ

Будынак Магілёўскага абкома КПБ вырашана перадаць пад дом правасуддзя і размясціць у ім гарадскія і абласныя органы пракуратуры, суда, юстыцыі, адвакатуры і натарыята.

Будынак Магілёўскага райкома КПБ перадаецца «Камерцыя-банку». На базе гаражна-бытавога комплексу абкома КПБ і аўтатранспарту мяркуецца стварыць падстанцыю гарадской хуткай медыцынскай дапамогі ў колькасці 12 брыгад.

Дамы грамадска-палітычнага цэнтра і курсаў павышэння кваліфікацыі абкома КПБ перадаюцца абласной філармоніі і медвучылішчу.

Такое рашэнне прыняў выканаўчы камітэт горада Магілёва.

**З ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ**

## ГОЛАД НА ПАРОЗЕ?

З 1 лістапада ў Мінску ўведзены талоны на яйкі. На адзін талон іх будзе адпускацца дзесяць штук. Але з-за недахопу кармоў аб'яднанне «Белптушкапром» не ў сілах павялічыць вытворчасць яек.

Як было заяўлена на прэс-канферэнцыі Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў, сур'ёзныя цяжкасці чакаюць мінчан неўзабаве і ў забеспячэнні малаком. Гораду сёння недапастаўляецца каля 50 тон сыравіны штодзённа з Брэсцкай, Віцебскай, але ў асноўным з Мінскай вобласці, адкуль пастаўкі апошнім часам знізіліся ўжо на пятнаццаць працэнтаў.

Выйсце з гэтага крытычнага становішча бачыцца, прама скажам, арыгінальнае: знізіць тлустасць усяго выпускаемага малака да 2,5 працэнта і за кошт гэтага павялічыць яго вытворчасць.

**ПРЫБЫТКОВАЯ ГАЛІНА**



Прыбытковай галіною стала развядзенне норак у калгасе «Дружба» Глыбоцкага раёна. Звераферму стварылі тут па ініцыятыве райаграпрома два гады назад. Прычым сярод мясцовага насельніцтва падтрымкі не знайшлі. Даглядаць звяркоў, ахоўваць ферму ўзяліся мінчане.
Праўда, цяпер адносіны да новай галіны ў працаўнікоў гаспадаркі змяніліся. Па выніках работы першага года не толькі акупіліся затраты на стварэнне звераферми, але і атрымана амаль 250 тысяч рублёў прыбытку. Частка прыгожых шкурак вырашчаных норак прададзена жывёлаводам.
У калгасе «Дружба» развіваюцца і іншыя падсобныя промыслы: ёсць свой цэх па вытворчасці будаўнічых блокаў, піларама, у перспектыве — будаўніцтва модуля па вырабу цэглы і чарапіцы. Прадукцыя промыслаў пойдзе не толькі на задавальненне патрэб гаспадаркі, але і на бартэрныя здзелкі па набыццю тэхнікі і іншага неабходнага абсталявання.
НА ЗДЫМКУ: ветурач Вольга САВІЦКАЯ і старшыня калгаса Віналій ПІТКЕВІЧ на звераферме.

**ЭКАНАМІЧНАЯ ВАЙНА**

## НЕ ПА-СУСЕДСКУ

У прыгранічных раёнах Беларусі з Прыбалтыкай, Расіяй і Украінай успыхнула сапраўдная эканамічная вайна. Глухімі сцежкамі і непраезджымі дарогамі вядуць праз граніцу хвацкія гандляры з Літвы і Латвіі кароў, свіней, авечак і іншую жывёлу з беларускіх вёсак. Справа ў тым, што былы Саюз развалены, і кожная рэспубліка цяпер устанаўлівае свае закупачныя цэны на сельскагаспадарчую прадукцыю.

У Латвіі, напрыклад, за тону буйной рагатай жывёлы плацяць на 1 тысячу, свіней — на 1,6 тысячы рублёў больш, чым у Беларусі. Прадпрымальныя людзі са Смаленскай, Пскоўскай, Бранскай абласцей па больш высокай цане масава скупляюць бульбу ў Віцебскай і Магілёўскай абласцях.

Спусташыўшы прыгранічныя вёскі, літоўскія і латвійскія нарыхтоўшчыкі рынуліся ў глыб тэрыторыі Беларусі — яны ўжо дзейнічаюць у Валожынскім, Маладзечанскім, Уздзенскім раёнах. Тым часам на прылаўках беларускіх магазінаў амаль што не стала мяса, чэргі ўжо за малаком і малочнымі прадуктамі.

Скупляюцца і вывозяцца з Беларусі таксама і прамысловыя тавары, якія ў Прыбалтыцы каштуюць намнога даражэй.

Міліцыя не ў стане абараніць граніцу: на сотні кіламетраў усяго 2—3 кантрольна-прапускныя пункты.

**ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ**

● Дзяржбанк СССР з 30 кастрычніка выпусціў у абарачэнне банкаўскія білеты (банкноты) вартасцю 200 рублёў узору 1991 года.

● Як сведчыць апошні перапіс насельніцтва, у Літве жыве 63 тысячы беларусаў, у Латвіі — 120 тысяч, у Эстоніі — каля 28 тысяч, у Малдове — амаль 20 тысяч, у Грузіі — 8,5 тысячы, у Арменіі — больш за 1 тысячу беларусаў.

● Адбылася ўстаноўчая канферэнцыя новай грамадскай дабрачыннай арганізацыі — фонду «Інтэлект Беларусі». Старшынёй фонду абраны Міхаіл Дзямчук, намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

● У віцебскім магазіне «Тканіны» даўжэзная чарга выстраілася за савецкімі флагамі. Жанчыны бралі іх хто на хустку, хто на кофту ці спадніцу. На жаль, іншых тканін у нашых магазінах амаль што не знойдзеш.

**ФЕСТЫВАЛІ**



У Беларускай дзяржаўнай філармоніі прайшоў фестываль музычнага і тэатральнага мастацтва Беларусі эпохі барока і класіцызму. Сімвалічная назва фестывалю — «Адраджэнне беларускай «Капэлы». У XVII—XVIII стагоддзях капэлы аб'ядноўвалі вакалістаў і інструменталістаў, якія выступалі як у палацах і на канцэртных сцэнах, так і на пляцоўках і вуліцах гарадоў і неслі народу бессмяротныя творы Баха, Вівальдзі, Гайдна, Моцарта.
Вяртаючыся сёння да гэтага тэрміна, калектыў аднадумцаў-энтузіястаў — музыкантаў, выканаўцаў, кампазітараў — стараецца вярнуць Беларусі яе музычную мінуўшчыну, аб'яднаць творчую інтэлігенцыю рэспублікі.
Фестываль стаў вынікам шматгадовых пошукаў у айчынных і замежных архівах старадаўніх партытур, рэстаўрацыі і падрыхтоўкі да выканання раней невядомых твораў, што атрымалі, нарэшце, статус беларускай музычнай класікі, гісторыя якой налічвае стагоддзі.
НА ЗДЫМКУ: Мінскі дзяржаўны Камерны хор выканаў творы са зборніка лірычных песень і інструментальных твораў XVIII стагоддзя «Куранты».




**177**

Бяссонная ноч, мукі нейкай хваробы, разьбітая сьвядомасьць — усё разам прыводзіла яго ў адчай і рабіла з яго чалавека, якому нічога не было страшнага. Але ён нічога не адказаў Загорскаму. На гэты раз ён толькі сьціснуў зубы і прамаўчаў...

— Што за ідыёт, — не супакоіваўся Загорскі. — Паглядзіце, стаіць.

— Ах так, — прарвалася ў Тугоўскага. І не пасьпелі апамятацца прысутныя, як звонкі ўдар па твару прарэзаў цішу пакою. Усе паўскаківалі з мейсц. Загорскі падляцеў да Тугоўскага, але ў гэты момант другі ўдар разнёсься ў паветры з няменшай сілай.

— Вось табе, — крычаў Тугоўскі. — За ўсё, за плябея і за ідыёта!

Пачалася запраўдная бойка. Тугоўскі быў у перавазе. Ён біў Загорскага па сьпіне, па руках, па твару, куды толькі дасталі яго доўгія рукі, біў са сьмеласьцяй адчайнага чалавека. Іх разьнімалі, але доўга не маглі разьняць, пакуль у справу не ўмяшаўся нейкі Геркулес-украінец і не вывеў за каўнер з пакою Тугоўскага.

— "Памсьціцца, — падумаў Тугоўскі, застаўшыся адзін у карыдоры. — Цяпер Загорскі будзе памятаць мяне на ўсё жыцьцё. Плябей памсьціцца патрыцыю"... Ён хутка апрануўся й выскачыў з інтэрнату на вуліцу. Швэйцар доўга капаўся ў хаце й не хацеў адчыняць яму брамы.

— Вы не зачыняйце брамы, — сказаў Тугоўскі, — я зараз вярнуся з аднэй дамай. Яе муж сяньня ў інтэрнаце гуляе ў карты, разумееце?

— А-а, — працягнуў швэйцар.

Тугоўскі паляцеў на кватэру Загорскага. Віла стаяла недалёка ад інтэрнату, на прыгожай гарэ сярод ёлак і зеляніны. Ён пазваніў. Ніхто не

**178**

адгукнуўся. Дзесьці спрасонку залаяў сабака. Яшчэ раз пазваніў... Ён званіў без упынку, пакуль нарэшце не пачуў шлёпаньне пантофлей каля дзьвярэй.

— Хто тут? — пачуўся голас жаночы, і прамень электрычнай лямпачкі папаў проста ў вочы Тугоўскаму.

— Студэнт Тугоўскі, калі ведаеце.

— Я такога ня ведаю. — Сьвет скальзнуў уздоўж яе фігуры. — Я вас не магу пусьціць.

— Не трэба. Толькі выслухайце мяне. Пан Загорскі ёсьць у хаце?

— Не, яшчэ не прыходзіў.

— Дык вось, пан Загорскі зараз знаходзіцца ў Украінскім інтэрнаце, адзін квартал ад вас, і грае ў карты. Ён прайграў ужо 600 корун.

— Ах... — ускрыкнуў жаночы голас.

— Калі хочаце яго ратаваць, дык зараз жа мусіце йсьці ў інтэрнат са мной, інакш ён аканчальна праграецца й аддасьць свой апошні касьцюм.

— Зараз. Хвіліну пачакайце...

Тугоўскі спакойна застаўся чакаць. Помста яго нарэшце дасягла мэты. Праз нядоўгі час прыгожая, поўная чэшка ў чорным пальто адчыніла дзьверы вілы. Яны пасьпешна накіраваліся ў інтэрнат. Тугоўскі маўчаў. Няхай яна сама пабачыць абстаноўку, у якой апынуўся яе будучы муж. Які гэта будзе дзіўны момант.

Яны прайшлі праз браму, дзе швэйцар ёй нізка пакланіўся й зьняў шапку, потым падняліся па драбіне і... Яна адчыніла дзьверы пакою. Напэўна ўзрыў бомбы зрабіў-бы лепшае ўражаньне, чым зьяўленьне жанчыны ў дзьвярох інтэрнату. Усе ігракі здаваўшыся яшчэ больш жахлівымі пры паўцёмным асьвятленьні свечак, замёрлі, ня ве-

**179**

даючы што рабіць, як зразумець зьяўленьне гэтага прывіду. Адкуль і хто яна?

— Пан Загорскі, я прашу вас зараз жа вярнуцца дахаты, — прамовіла яна голасна, адчаканіваючы кожнае слова. Загорскі ўстаў, бледны, як папера, й пасьпешна падыйшоў да яе.

— Бажэна! — цалаваў ён яе рукі. — Я зараз... Дазволь мне тут адыграцца. Я зараз выграю шмат грошы.

— Ах, нягодны. Ты не маеш права называць мяне па імені. Зараз жа зьбірайся са мной дахаты.

— Ну гэта яшчэ паглядзім, — успыхнуў Загорскі. — Можаце ісьці. Я вас не трымаю. — Ён нізка і вежліва пакланіўся ей і зноў пайшоў да стал а хлопнула дзьвярыма й выйшла. Упацьма а йшла, хіляючыся, й Тугоўскі падляцеў дапамагчы ей зыйсьці з драбіны. Калі сьвет ліхтара асьвяціў яе твар, ён убачыў яе вочы, поўныя сьлёз.

— Ну, бывайце, — працягнула яна руку на разьвітаньне Тугоўскаму. — Дзякую вам вельмі, што мяне выручылі з бяды... Вельмі дзякую і яна, плачучы, пайшла з інтэрнату. Тугоўс е вярнуўся ў пакой. Ён ведаў, што Загорскі з карцёжнікамі пастараюцца памсьціцца яму, й таму правёў бяссонную ноч ў альтане. Запраўды, праз паўгадзіны ён пачуў, як з інтэрнату выйшаў Загорскі з таўпой прыяцеляў і прамовіў:

— Яго шчасьце, што мы яго не знайшлі...

— Адламалі-б мы яму рэбры, — прамовіў праз зубы нейкі густы нізкі бас.

Яны пералезьлі праз плот, каб не званіць швэйцару, зьніклі ў цемры ночы. Тугоўскі аблягчона ўздыхнуў. І пасьля з непрыемнасьцяй падумаў: "Ужо ўся кар'ера Загорскага загінула, больш ён ня будзе гаспадаром у прыгожай віле".

**180**

**XII**

Пад ранак Тугоўскі паглядзеў на сябе й ледзь утрымаўся на нагах: на тым мейсцы, дзе казаў астральны чалавек, зьявілася вялікая жоўтая пляма. Не заставалася больш ніякага сумлеву. Апошні валасок, за які ён быў учапіўшыся, абарваўся, і ён ляцеў у прорву. Як жахліва. Як ён ні хацеў калісьці скончыць жыцьцё самагубствам, але зараз, калі ён бачыў, што гіне, нейкі жывёльны страх перад загубай апанoўваў ім. "Загінуць, — думаў ён, — так, загінуць. Не!... Гэта дзіка! Невымоўна дзіка. Як-небудзь схапі за жыцьцё".

Ён ляцеў, як непрытомны, да доктара.

У вялікім шыкарным пакоі з усялякімі інструмэнтамі высокі, у белым халаце, спакойны, як Бог, доктар запісваў усе прыметы хваробы Тугоўскага. Ён ціскаў яго, круціў, прыглядаўся й больш усяго хацеў даведацца, калі гэта было. Т ўскі пачынаў ужо думаць, што ён дарэмна пужаўся, калі доктар прамовіў сам з сабой:

— Так... Сіфіліс — слова грэцкае і азначае: сіф — сьвіньня, каханьне. Знача разам: сьвінячае каханьне.

— Магчыма, доктар. Але дзе ж узяць запраўднае каханьне, калі яго няма. Я ўсё жыцьцё сваё шукаў сапраўднае каханьне, але ня мог знайсьці, — патэтычна казаў Тугоўскі, — вось цяпер я маю сіфіліс...

— Не, чалавеча... На гэты раз Бог мілаваў, але другі раз вы не хадзіце да гэтых начных паненак, асабліва пад уплывам алкаголю. Другі раз вам так лёгка не прыйдзецца...

— Дык я здаровы? — з радасьцяй ускрыкнуў

**181**

Тугоўскі...

— Так. У вас ёсьць адна нязначная хвароба, фактычна, яе й хваробай ня можна назваць. Я-б назваў яе па-французску, але вы па-французску не разумееце. Гэта хвароба ад таго, што вы даўно ня мелі жанчыны...

— Праўда?

— Так, каб вы аканчальна сталі здаровы, я магу вам прыпісаць толькі адно лякарства: жанчыну...

— Вельмі дзякую, доктар, — засьмяяўся Тугоўскі, — але дзе яе ўзяць?

— Ну, што ж... Найдзіце сабе якую-небудзь старушку й жывіце з задавальненьнем... Тут ужо медыцына бяссільна што-небудзь дапамагчы, — зноў засьмяяўся доктар.

Тугоўскі выйшаў ад вясёлага старыка-доктара, быццам перарадзіўшыся. Ён ляцеў нібыта на крыльлях, вясёла гледзячы на вуліцы й людзей. Яму было ўсё прыемна і радасна, быццам ён бачыў жыцьцё першы раз пасьля даўгога сядзеньня ў турме. Ён вясёла ўвайшоў на двор Студэнцкага дому. Яму здалося, што ўсё прасьвятлела, што веснавое сонца наўмысьлі так міла й прыемна грэе й залоціць вярхушкі дрэў, выбіваецца на канаўках, у цяні заляжаўшыйся сьнег тае і цячэ ручаямі... Сьпяваюць пеўні на платах, усё шуміць новым маладым жыцьцём. "Жыць, жыць, я яшчэ буду жыць!" — казала сэрца, і ад гэтага простага слова сьлёзы навёртываліся на вачох. "Усё ж ткі хачу жыць, — казала істота, — хоць цярпець, але каб жыць..."

Ён быў у такім павышаным настроі, што не зьвяртаў увагі на адносаньне да сябе сяброў. Толькі калі ён спаткаў двух-трох беларусаў, якія прайшлі міма, не прывітаўшыся з ім, тады ён

**182**

зразумеў людское адносаньне да сябе і пахмурнеў... Ён увайшоў у шумную залю, сеў у куток й задумаўся. Як дзіўна створаны гэтыя людзі! Яны мяняюць сваё адносаньне залежна ад посьпеху чалавека... Яны лашчацца, яны каля яго, пакуль грыміць слава, пакуль чалавек ідзе ўгару і высока нясе сваё імя, але трэба яму крыху спатыкнуцца, як усе пакідаюць яго, перастаюць быць знаёмымі, й чалавек застаецца адзін. Як брыдка, што ўсе гэтыя маленькія людзі, усе гэтыя тэхнікі Жукі, Буракі, Малевічы ставяць сябе вышэй за яго й з нейкім пачуцьцём першынства, сьмеючыся, падаюць яму руку.

Здароў, Тугоўскі! Ну, што ты цяпер: ні Богу свечка, ні чорту качарга?

Эх, хацелася-б яму кінуць у іх вочы ганебны крык з горычай і злосьцяй, але ён прымушаны маўчаць, ён прымушаны цярпець іх насьмешкі. Увесь да дна, ну ўсё ж, усё роўна трэба выпіць свой келіх жыцьця. "Ці з вадой жыватворнай ці зь ядам успамінаў..." — згадаў ён словы Янкі Купалы й маўкліва глядзеў, як рухалася стракатая студэнцкая таўпа ў залі.

— Тугоўскі! — пачуў ён раптам каля сябе голас і абярнуўся. Перад ім стаяў вясёлы, квяцісты, з даўгімі валасамі Тамашэвіч.

— Ну, як жывём?

— Па-старому... Як гарох пры дарозе...

— Эх, біць цябе трэба, — казаў ён, падсядаючы да Тугоўскага, — адмовіцца ад стыпэндыі й кінуць

---

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 23 — 44.**

**183**

вышэйшую школу... Гэта нешта нечувана. Што за прычыны? Слухай... Я ніяк не магу зразумець.

— Дык і не старайся. Нічога не зразумееш на гэтым сьвеце... Хачу апрасьціцца, дзядзька Тамаш, — засьмяяўся Тугоўскі.

— Апрасьціцца ці ўдасканаліцца? Гэта такая праблема, што над ей варта паламаць галаву ўсей нашай маладой інтэлігэнцыі.

— Ах, не кажы гэтых высокіх слоў: "інтэлігэнцыя..." Ва ўсякім выпадку я да яе сябе не далучу.

— Чаму? Дарэмна.. Кожны чалавек, хто задумываецца над самім сабой, над людскім існаваньнем, хто жыве ня толькі для бруха, але крыху й для духа, ужо ёсьць думаючая частка народу... А я спадзяюся, што сябе адносіш да гэтай думаючай часткі, праўда?

— Знача, тады і ўсе нашыя студэнты ў Празе, не адказываючы проста на пытаньне Тамашэвіча, зазначыў Тугоўскі, — таксама інтэлігэнцыя? Кінь, дзядзька Тамаш...

— Зразумела, што інтэлігэнцыя, — рабіўся сур'ёзным Тамашэвіч.

— Але ж вось адсюль і выцякае заданьне нашай інтэлігэнцыі: як жа апрасьціцца, калі мы ўсе выйшлі з простага народу й з пункту гледжаньня якога-небудзь расейца й так вельмі "простыя". Перад намі ўсімі стаяць велізарныя шляхі ўдасканаленьня, такія велізарныя, што мне падчас хочацца сказаць словамі Максіма Багдановіча: "Брацьця, ці хопіць нам сілы?" Удасканаліцца-б, дзядзька Тамаш, — калі заглушыць у сабе тое простае, што яшчэ зьвязвае нас з народам; знача, каб адыйсьці ад народу... Так трэба зразумець гэта ўдасканаленьне.

**184**

— Удасканаліцца, каб стаць дэрэктарам фабрыкі, ці што?

— Зусім не... На што так упрашчаць сваё думаньне. Удасканаленьне ёсьць удасканаленьне. Гэта ёсьць даўгі, пасьлядоўны шлях разьвіцця ўсіх духавых элементаў чалавека... Карацей і ясьней кажучы, рост яго.

— Запраўды: мы павінны рабіць яшчэ шмат над сабой працы, каб у нас было больш чалавечага твару. Мець сваю індывідуальнасьць, свой чалавечы твар, — гэта наша найвялікшае заданьне. Толькі ў людных адзінках — наш ратунак. Як жа стаць моцным, дзе тое лякарства, якое магло б дапамагчы і даць моц. Старыку Фаўсту, памятаеш, чорт даў лякарства, чароўную Маргарыту, амаладзіў яго, зрабіў моцным і прыгожым, хоць узяў яго душу. Ты ведаеш, што сталася потым з Фаўстам?... Так вось, Маргарыта якая-небудзь ня ёсьць у нашы часы лякарства, якое зробе нас маладымі і моцнымі. Адзіны лек для нас, каб стаць моцнымі, гэта ёсьць праца над самім сабой — культурная праца ў культурнай абстаноўцы. Сярод грамадзянства. Мы павінны йсьці ў грамадскія арганізацыі, закладаць гурткі, таварыствы, партыі, каб удасканальвацца, бо ніхто так не разьвівае чалавека, як грамада і жыцьцё.

— "Моцны той, хто адзін", — казаў філёзаф, — зазначыў Тугоўскі. — Мне здаецца, грамада ня можа тварыць індывідуальнасьць.

— Правядлова... Адна грамада ня створа індывідуальнасьці. Калектыў часта прыгнятае адзінку, але трэба прызнаць, што без грамады таксама ня можа быць разьвіцьця адзінкі. Рабінзоны Круза аджылі свой век.

ДА ПРАБЛЕМЫ ВЯРТАННЯ БЕЛАРУСКІМ ПАСЕЛІШЧАМ ГІСТАРЫЧНЫХ ІМЁНАЎ

# ВЯРТАЦЬ! АЛЕ ЯК?

Вяртанне гарадам старадаўніх гістарычных імёнаў — адна з вельмі станоўчых прыкмет апошняга часу. Толькі, напрыклад, сёлета горад Андропаў зноў стаў Рыбінскам, Брэжнеў — Набярэжнымі Чаўнамі, Варашылаўград — Луганскам, Горкі — Ніжнім Ноўгарадам, Жданаў — Марыупалем, Арджанікідзе — Уладзікаўказам і г. д. Маральны лідэр у гэтым пазітыўным працэсе, які, бясспрэчна, яшчэ далёка не скончаны, Санкт-Пецярбург. І пытанне: «Вяртаць ці не вяртаць?» у шырокім плане нават права на існаванне не мае, бо цвёрды адказ адназначны: вяртаць, абавязкова вяртаць! Вось толькі, ці трэба без выключэнняў вяртаць ва ўсіх абсалютна выпадках, ці варта паспешліва і безаглядна падганяць і тут літаральна ўсё пад адзіны капыл? Паразважаць ёсць над чым...

Сяму-таму, магчыма, падасца, што пытанні вяртання паселішчам іх гістарычных назваў, як і ўвогуле праблемы мовы, зберажэння беларускай нацыянальна-культурнай спадчыны — справа дзесятая, што спярша, маўляў, накормім народ. Гэтым нам толькі ўчора — успомніце! — з дня на дзень назойліва празвоньвалі вушы старадубцавы, лігачовы, іх тутэйшыя зацятыя падпявалы з наменклатурна-пячорных бальшавікоў. Але злачынны голас салістам з пачварнага хору, здаецца, заняло назусім. Прадбачу таксама, што хтосьці скажа, што тут, на Беларусі, вяртанне старых імёнаў нашым паселішчам скарэй за ўсё абмяжуецца толькі некалькімі адзінкавымі выпадкамі. Далей яны назавуць Мінск, бо аб неабходнасці адраджэння сапраўднай гістарычнай назвы сталіцы загаварыў, нарэшце, рэспубліканскі друк. Магчыма, хто-небудзь згадае яшчэ колькі прыкладаў, калі беларускія вёскі, мястэчкі і гарады ў розны (пераважна ў савецкі) час неспадзявана атрымалі новыя імёны.

Аўтар артыкула, на жаль, не мае афіцыйнай статыстыкі татальнага гвалту, дакладнай хронікі бясконцага глумлення над гістарычнымі назвамі паселішчаў нашага краю. Але нават тыя, далёка не поўныя звесткі, што ёсць пад рукамі, прымушаюць схапіцца за галаву. Мяркуйце самі: працягам 1918—1973 гадоў на карце рэспублікі (без усякіх спроб хоць бы неяк параіцца на гэты конт з народам, вядома) заменена аж 557 назваў беларускіх паселішчаў (гл.: Жучкевич В. А. «Краткий топонимический словарь Белоруссии», Минск, 1974, с. 439—477). Удумайцеся: 557! І гэта яшчэ без уліку перайменаванняў распаўсюджаных на Беларусі хутароў, асобных фальваркаў, шматлікіх былых шляхецкіх ваколіц, засценкаў, без уліку знішчэння ў мірны час усіх тых вёсак (разам з імёнамі), якія яшчэ адносна нядаўна былі абвешчаны «неперспектыўнымі», зрабіўшы тым самым ім смяротны прысуд. Усе, падкрэслю, гэтыя назвы — не проста нямыя, зацёртыя кропкі на карце. Яны радзіма мільёнаў — і продкаў, і нашых сучаснікаў-землякоў, для кожнага з іх гэта было ці з'яўляецца зараз самым мілым, самым родным і дарагім месцам Бацькаўшчыны ў цэлым свеце. Паверце, што ўсе размовы аб так званых вялікай і малой радзімах — лухта. Радзіма, як і маці, адна. Яна толькі там, дзе ты нарадзіўся. А Радзіма не можа быць [illegible]азоўнай...

Якраз тут і ўзнікаюць непаразуменні. Вось хоць бы наступная сітуацыя. Грамадзянін, напрыклад, нарадзіўся ў былым беларускім мястэчку, якое ў савецкі час атрымала статус горада і новую назву — Дзяржынск (1932 год). Але ж «жалезны Фелікс» у святле мноства фактаў, ад якіх, як кажуць, не адмахнуцца, быў крываўжэрным апрычнікам-катам, родным «бацькам» сумнаславутага НКУСа, ён быў (з дазволу сказаць) чалавекам, які пазбавіў жыцця безліч бязвінных ахвяр. Ці можа, ці мае права насіць далей імя гэткага нелюдзя цудоўнае і маляўнічае беларускае мястэчка, з якім шмат землякоў звязалі свой лёс? Бясспрэчна, не! Дзяржынску як мага скарэй трэба абавязкова і неадкладна вярнуць старую назву — Койданава, а яшчэ лепш — Крутагор'е, бо паводле летапісных доказаў вядомага і бездакорна-сумленнага беларускага гісторыка, пісьменніка Міколы Ермаловіча, ні татарскага хана Кайдана, ні бітваў з татарамі ля Койданава на самай справе ніколі не было. Гэта таксама, як і ў выпадку з Дзяржынскам, належыць, несумненна, паступіць з тымі новымі назвамі беларускіх вёсак, мястэчак, гарадоў, вуліц, гаспадарак, устаноў і г.д., якія нясуць на сабе яскравы адбітак камуністычнай ідэалогіі (дакладней было б сказаць, міфалогіі), поўнага і канчатковага банкруцтва якой на планеце сёння не бачаць адны толькі сляпыя.

У суверэннай Рэспубліцы Беларусь не маюць права на жыццё і навастворыныя пры камуністычнай дыктатуры абстрактныя тапонімы, у якіх нават пад мікраскопам не знайсці ні кроплі беларускасці, ці хоць бы нейкіх слядоў нашых нацыянальных гістарычных каранёў (Ягадная, Садовая, Усход, Калінавая, Ураджайная, Дружная, Лугавая, Зялёная, Новае жыццё, Сонечная, Прагрэс і г. д.).

Разам з тым у рэспубліцы ёсць адносна малалікая група паселішчаў, вяртанне якім былых назваў было б беспадстаўным. Як ні круці, а ўсё роўна сёння ўспрымаюцца яны немілагучна, малапрыемна, а то і малапрыстойна, даходзячы часам да несхаванай абразы іх ураджэнцаў і цяперашніх жыхароў. Напрыклад, у Віцебскім раёне даўней існавала вёска Бардэлі (сучасная, зусім не лепшая назва, як, дарэчы, і наступныя ў гэтым спісе, Іскра) ці колішняя вёска Асталопава ў Гарадоцкім раёне (цяпер Светлая), на Дзяржыншчыне была вёска Самадураўшчына (зараз Радзіма), была вёска Свінслупы ў Гарадоцкім раёне (Рамашкіна), вёска Халуі на Глыбоччыне (Салаўіная), вёска Чарвякі на Вілейшчыне (Сакалоўка) і інш.

Куды лепшае на Беларусі становішча з імёнамі гарадоў. На чарзе вяртанне гістарычных назваў нашай сталіцы, Дзяржынску. Да іх, магчыма, неўзабаве далучацца Верхнядзвінск (да 1962 года Дрыса), Слаўгарад (да 1945 года Прапойск, летапісны Прапошаск), Светлагорск (назва з 1961 года, узнік на месцы вёскі Шацілкі). Але [illegible]род беларускіх гарадоў з новымі імёнамі ёсць адзін, вяртаць якому колішнюю назву ў сённяшніх нашых, падкрэслім, варунках наўрад ці будзе станоўчым і мэтазгодным. Маю на ўвазе Чэрвень, райцэнтр Мінскай вобласці, які да 1924 года называўся Ігуменам. У аўтара гэтых радкоў не скараспелая цікавасць да Чэрвеня. Ужо амаль два дзесяцігоддзі я збіраю разнастайныя, пераважна архіўныя матэрыялы аб былых мястэчках роднага краю, і гэта праца ў свой час распачалася якраз з Чэрвеня. У гісторыка-публіцыстычным нарысе, прысвечаным мінуламу Чэрвеня («Нёман», 1984, № 11), дапрацаваны варыянт якога пазней быў уключаны ў маю кніжку «Чары даўніны», адзначалася, што паходжанне старога імя горада міфалагічна-легендарнае. У сярэдзіне мінулага стагоддзя таленавіты беларускі этнограф, пісьменнік і журналіст Павел Шпілеўскі занатаваў тут мясцовае паданне, дзе праліваецца святло наконт узнікнення назвы гэтага былога мястэчка. «Старажылы з суседніх вёсак гавораць, — пісаў Шпілеўскі, — што Ігумен атрымаў назву ад жаночага манастыра, пабудаванага грэчаскай ігуменняй з Афонскай манастырскай гары; у якім месцы стаяў... манастыр, не кажуць пэўна...». Але ахутаныя рамантычным флёрам легенды ўсё ж застаюцца толькі легендамі. Дагэтуль не знойдзена аніякіх навуковых доказаў на карысць згаданай легендарнай версіі.

Цяпер паглядзім на пытанне з іншага боку. Што такое ігумен? Аўтарытэтны энцыклапедычны слоўнік Бракгаўза сцвярджае, што ў праваслаўнай царкве ігумен — настаяцель мужчынскага трэцеразраднага манастыра. Прыкладна тое ж самае можна прачытаць і ў акадэмічным «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы». Як жа сёння будзе ўспрымацца гэткая расшыфроўка? Напрыклад, мне падаецца, што ад яе за вярсту, даруйце, тхлінна нясе нейкай заімшэлай папоўшчынай. Зразумела, я не спрабую зусім адмаўляць пэўную ролю царквы ў пашырэнні асветы, нейкі ўплыў яе на духоўнае жыццё

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# ВЫСТАВА-АЎКЦЫЁН

Вось ужо ніколі не падумала б, што менавіта пад дахам заўжды такога ціхага, крыху зафармалізаванага музея Вялікай Айчыннай вайны прагучаць вясёлыя народныя спевы і музыка, што менавіта ў гэтым холе вывесяць нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня», вітаючы Другую выставу-аўкцыён народных інструментаў, якая адбылася там у кастрычніку.

На пачатку свята з прамовамі выступілі намеснік міністра культуры Беларусі М. Падгайны і скрыпічны майстар І. Дударэвіч. Але панавала на кароткім вітальным канцэрце музыка — ад Шапэна і Хачатурана да простых народных прыпевак. Свежасцю павявала ад чыстых гукаў скрыпак і званочкаў, цымбалаў і бубнаў, на якіх ігралі юныя выканаўцы з музычнага ліцэя. А вясёлыя прыпеўкі і танцы самадзейных артыстаў з дзіцячага сада прайшлі проста пад апладысменты публікі. Прыгожыя стракатыя ўборы, прасветленыя твары артыстаў — усё гэта дапамагала адчуць сябе ўдзельнікам сапраўднага свята.

Тым больш, што свята гэта новае, незвычайнае. Ну, скажыце, дзе і калі яшчэ была такая магчымасць агледзець з усіх бакоў ліру, палюбавацца па-мастацку выраблен ымі жалейкамі і дудкамі, гармонікамі і скрыпкамі. Цікава і тое, што можна было пагля дзець, як аўтар сам ацэньвае сваю работу, бо, як высветлілася, вырашана было пакінуць тыя цэны на інструменты, якія назначыў сам майстар. І гэта цалкам зразумела: на набыццё матэрыялаў патрэбна шмат грошай, часам нават валюта, а яшчэ шмат часу і цярпення...

На выставе былі прадстаўлены не толькі звычайныя, традыцыйныя інструменты. Вы ведаеце, што такое, напрыклад, басэтля? Нават трашчотка, як высветлілася, бывае некалькіх відаў: трашчотка-вяртушка вялікая, малая, падвойная... Ёсць такія інструменты, што наогул на інструменты не падобныя. Напрыклад, сурма кменная, выразбленая з тоўстай сцяблі ны травяністай расліны. На жаль, паслухаць, як яна гучыць, не давялося.

Але, калі пашанцуе, і гэта можна. Сапраўды, адна справа — прачытаць на паперы прозвішча майстра побач з інструментам і зусім іншая — убачыць гэтага майстра з уласным інструментам у руках. Для ўдзячнай публікі і праспяваць можна. І своеасаблівая рэклама, і людзям прыемна.

На другі дзень наведвальнікаў было ўжо значна менш. Да таго ж, здавалася, што гэта ў большасці прафесіянальна зацікаўленыя людзі: перапісвалі цэны, пільна прыглядаліся да кожнага інструмента.

Менавіта тады я і сустрэла Івана Бурага, аднаго з арганізатараў гэтай выставы. З нашай размовы высветлілася, што ідэя стварыць Асацыяцыю майстроў музычных інструментаў нарадзілася яшчэ ў чэрвені 1989 года, на свяце «Іграй, гармонік», якое праходзіла ў Віцебску. Запрасілі народных майстроў, правялі ўстаноўчую канферэнцыю, арганізавалі выставу. Атрымалася даволі цікава. Прынялі пастанову аб стварэнні асацыяцыі. У 1990 годзе ў дзяржаўным музеі прайшла першая выстава-аўкцыён.

Па словах І. Бурага, зараз у каталогу асацыяцыі налічваецца каля 70 адрасоў народных майстроў. Сярод 15 аўтараў, якія прадставілі свае інструменты на гэтую выставу, ёсць і ўдзельнікі міжнародных конкурсаў: напрыклад, скрыпічныя майстры І. Жукоўскі, І. Дударэвіч.

«Я чуў, — сказаў І. Буры, — што, маўляў, на выставе мінулага года было больш інструментаў. Я б не згадзіўся з гэтым». Справа ў тым, што першая выстава ахоплівала перыяд «ад неаліту да сягонняшніх дзён», і таму ўдзел у ёй прымалі ўсе дзяржаўныя музеі Беларусі. А на гэтай выставе прадстаўлены работы толькі саміх майстроў.

На пытанне, ці запланаваны асацыяцыяй якія-небудзь падобныя мерапрыемствы на будучыню, І. Буры адказаў з усмешкай: «Калі хопіць сіл».

Вольга БАБАК.



Свой 36-ты сезон Рэспубліканскі тэатр юнага гледача пачаў з прэм'еры-спектакля «Цудоўнае падарожжа ў ноч». Створаны ён па матывах кнігі вядомага італьянскага пісьменніка-казачніка Джані Радары «Блакітная страла». Паставіў казку рэжысёр Аляксандр Багамолаў. Дэкарацыі да спектакля выканала галоўны мастак тэатра Ларыса Герлаван.

У гэтым годзе юныя гледачы ўбачаць яшчэ дзве новыя работы — «Востраў скарбаў» Р. Стывенсана і «Тысяча і адна ноч», сцэнічная версія якіх створана пры ўдзеле маладога драматурга Уладзіміра Грэўцава.

НА ЗДЫМКУ: сцэна з новага спектакля «Цудоўнае падарожжа ў ноч».

Фота У. ВІТЧАНКІ.

НАТАТКІ БІЁЛАГА

# ПОЗНЯЯ ВОСЕНЬ

Лістападаўскія дні веюць холадам і сумам. Нізкія пацямнелыя хмары суцэльна зацягваюць неба. І з раніцы да вечара ідзе і ідзе, не перастаючы, дробны калючы дождж. Толькі зрэдку, нібы развітваючыся, выгляне сярод хмар няяркае сонца, і зноў пануе пахмурнасць, холад і слота.

Пустынна і гола становіцца на палях. Аднак чарнеюць на пакосах тарпы нарыхтаванай на зіму саломы і сена ды скупа зеленеюць пасевы азіміны. Не чуваць ужо ў небе крыкаў запозненых журавоў — самыя апошнія іх караваны пакінулі родныя мясціны.

Адышлі на «зімнія кватэры» многія лясныя насельнікі. Соладка заснуў у бярлозе мядзведзь. Да самай глыбокай восені назапашваў ён для сябе падскурны тлушч і цяпер усю зіму будзе жыць за кошт яго. Толькі ўспомніць у сне пра салодкі ліпавы мёд і зачмокае ад задавальнення ці пачне лізаць лапу.

Гэтак жа, як мядзведзь, заснулі вожыкі, барсукі, яноты. Праўда, барсук часта прачынаецца, іншы раз выбіраецца на кароткі час з нары. А янот, добра адаспаўшыся, і ўвогуле любіць зрэдку з палудня па лесе паблукаць — можа, дзе здабыча падвернецца.



Прыстасоўваюцца да цяжкіх умоў жыцця птушкі, што засталіся на зімоўку. Глушцы, цецерукі і рабчыкі сілкуюцца пупышкамі дрэў, здзёўбваюць хвою сасны ды шукаюць рэшткі позніх ягад, што засталіся ў недаступных месцах. Толькі жвавыя сінічкі не сумуюць і лятаюць ад аднаго дрэва да другога, дэталёва абследуючы кожнае з іх: шукаюць сярод шчылін кары насякомых.

Заяц-бяляк па-ранейшаму адседжваецца ў гушчары. Не практыкуе працяглых пераходаў русак. І лісіца выходзіць далёка на раскіслыя ад гразі месцы грэбуе.

Уся прырода чакае зімы. Восеньская слота і імжа вельмі надакучылі кожнаму. І першыя моцныя маразы заўсёды па душы. Вось-вось пойдуць буйныя снегапады, і ўстановіцца непадзельнае панаванне зімы — незвычайнай белай казкі.

**В. СТОМА.**

# ВАСІЛЬКІ

Словы У. КАРЫЗНЫ Музыка М. ЛІТВІНА




**Расцвілі пад гаем летняю парою**
**Сіняю зарою валількі.**
**Затуманіў сэрца чыстаю слязою**
**Той апошні вечар ля ракі.**

**Думала, каханне будзе з намі вечна**
**Пад хмурынкай светлай, пад зарой,**
**А яно дыхнула ціхім майскім ветрам**
**І растала песняй за ракой.**

**А яно растала песняй маладою,**
**Адцвіло, нібыта валількі...**
**Затуманіў сэрца чыстаю слязою**
**Той апошні вечар ля ракі.**

# ВЯРТАЦЬ! АЛЕ ЯК?

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

беларусаў, прыхільнікаў гэтай хрысціянскай канфесіі. Разам з тым нельга, проста недаравальна заплюшчваць вочы на тое, што царызм, ажыццяўляючы гвалтоўную русіфікацыю ўсяго нашага краю, галоўную выканаўчую місію гэтай ганебнай справы ўскладаў менавіта на праваслаўную царкву. І сваю задачу тут яна бездакорна и паспяхова выконвала. Меў рацыю Мураўёў-вешальнік, небеспадстаўна адносячы мясцовых праваслаўных святароў да самых адданых царызму, да самых надзейных людзей. І сапраўды, на практыцы бацюшкі з'яўляліся палітычнымі наглядчыкамі, якія пільна сачылі за настроямі паствы. Часцяком яны паведамлялі ўладам наконт розных асоб, якія выклікалі падазрэнне і недавер. І не лічылі гэта грахом.

Вядома, не кожны праваслаўны свяшчэннік даўней зацята страчыў жандарам даносы ці запляміў сябе нечым яшчэ. Сярод іх, безумоўна, трапляліся і людзі высакародныя з крышталька-чыстым сумленнем. У прыватнасці, са знойдзеных архіўных дакументаў стала вядома, што якраз такі чалавек — айцец Канстанцін Загароўскі ў канцы 60-х гадоў XIX стагоддзя служыў малодшым свяшчэннікам Ігуменскай саборнай царквы. Але падобныя выпадкі — рэдкасць, таму ім, дарэчы, і прысвячаліся спецыяльныя справы. Вельмі характэрна, што таго самага айца Канстанціна, які ў царкве ўголас абурыўся разбэшчанасцю ігуменскіх павятовых чыноўнікаў, царкоўнае начальства паспешліва ахрысціла «парушальнікам спакою і паклёпнікам», прызнала псіхічнахворым.

Аўтару артыкула за доўгі час работы ў розных архівах давялося азнаёміцца з вялікай колькасцю арыгінальных дакументаў па беларускай гісторыі мінулага стагоддзя. І ніводнага, падкрэслю, разу не сустракаліся факты, якія хоць бы сяк-так ускосна сведчылі аб прыязным, з шанаваннем стаўленні тутэйшай праваслаўнай паствы (у большасці — былыя уніяты) да сваіх святароў. Фактаў жа грубых і варожых адносін да іх простага люду — хоць гаць гаці. А народ, між іншым, яшчэ ніколі не памыляўся ва ўласных высновах, заўжды ведаў выдатна, хто на самай справе чаго варты...

У сучасных умовах, калі дзяржаўны суверэнітэт Беларусі зрабіўся, нарэшце, канстытуцыйнай нормай, праваслаўная царква ў рэспубліцы, на жаль, нічога беларускага апроч сваёй новай назвы практычна не мае. Спадзявацца тут на нейкія зрухі не выпадае. У гэтай царквы, пакуль яна застаецца падначаленай Маскоўскаму патрыярху, гістарычнай перспектывы ў нашым краі няма. Больш таго, не лішнім, відаць, будзе адзначыць, што кіраўніцтва Рускай праваслаўнай царквы доўгі час прытрымлівалася палітыкі беспрынцыповага згодніцтва з уладамі. Гэта мела месца, напрыклад, у перыяд застою. Ды й толькі ўчора, калі путчысты здзейснілі спробу рэакцыйнага дзяржаўнага перавароту, пазіцыя праваслаўнага кліру і асабліва — іерархаў наводзіць на сумны роздум. Тут да месца прывесці фрагмент выступлення вядомага праваахоўніка, дэпутата Вярхоўнага Савета РСФСР айца Глеба Якуніна: «... Да апошніх дзён шчупальцы КДБ яшчэ ляжаць на царкве (праваслаўнай —**М. В.**). Вось вам прыклад: у ноч абароны «Белага дома» я хадзіў па барыкадах... Але колькі ў нас было свяшчэннікаў? Два-тры? ... Ну, малайчына святейшы патрыярх — ён фактычна асудзіў путч і падтрымаў дэмакратыю. І, дарэчы ... патрыярх і на самай справе заклікаў і членаў Сінода гэты зварот падпісаць — яны адмовіліся» («Литературная газета», 11 сентября 1991 г.). Каментарыі тут, відаць, не патрэбны.

А цяпер, калі ласка, мяркуйце: ці варта ціхаму і маляўнічаму беларускаму гарадку Чэрвеню, гэтаму былому мястэчку суверэннай ужо Беларусі сёння што б там ні было вяртаць сваю ранейшую назву, гістарычнае паходжанне якой дакладна не высветлена і якая, галоўнае, на сабе мае пячатку Рускай праваслаўнай царквы. Той самай царквы, якая і даўней, і цяпер, мякка кажучы, мала спрыяла развіццю беларускасці? Новае ж імя гарадка — ад гожага слова «чырвоны», ад колеру, які здавён з'яўляецца адным з істотных сімвалаў усяго славянства. Гэты колер мы бачым таксама на нашай гістарычнай нацыянальнай сімволіцы: на полі шчыта старадаўняй беларускай Пагоні, на бел-чырвона-белым (ужо дзяржаўным!) сцягу.

Пытанне вяртання Чэрвеню ранейшай назвы, да слова, ужо абмяркоўвалася ў мясцовай раёнцы. Тады думкі чытачоў, як кажуць, не супалі. Але, здаецца, што рацыю ўсё ж маюць тыя, хто лічыць, што гораду мэтазгодна пакінуць сённяшняе імя... Такім чынам, на прыкладзе Чэрвеня робіцца відавочным, што праблема змены назваў на карце рэспублікі зусім не простая. Яна патрабуе нетаропкага дэталёвага і ўсеахопнага — моўнага, гістарычнага, палітычнага — дзяржаўнага падыходу.

**Мар'ян ВІЖ.**

*Рэдакцыя газеты не падзяляе пазіцыю аўтара гэтага артыкула, але дае магчымасць выказацца на старонках «Голасу Радзімы» людзям розных перакананняў. З задавальненнем надрукуем вашы водгукі.*

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

**ЛЯНЦЭВІЧ Пётр Пятровіч** шукае дзядзьку, стрыечную сястру альбо пляменнікаў. Яго дзядзька **ЛЯНЦЭВІЧ Іосіф Мікалаевіч** у 30-х гадах выехаў у Злучаныя Штаты Амерыкі з вёскі Сяменчыцы на Стаўбцоўшчыне. Да 60-х гадоў з ім падтрымлівалася перапіска. Ёсць звесткі, што ён, магчыма, жыў у горадзе Ларэйн, а потым пераехаў у Кліўленд.

Усіх, хто што-небудзь ведае пра **Іосіфа ЛЯНЦЭВІЧА** і яго сям'ю, просім пісаць у рэдакцыю альбо на адрас: **222672, Мінская вобл., Стаўбцоўскі р-н, в. Сяменчыцы, ЛЯНЦЭВІЧУ П. П.**

**НА ЗДЫМКУ: ЛЯНЦЭВІЧ Іосіф Мікалаевіч з унукамі Робертам, Рычардам, Рафіллю, Роням, Даням.**





**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Індэкс 63854. Заказ № 1694.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12